 



**ДНІ**

**11 чэрвеня – Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці**

**14 чэрвеня** – 100 год з дня нараджэння **М. Забэйды–Суміцкага** (1900–1981), спевака.

**15 чэрвеня** – 80 год з дня нараджэння **Т. Аляксеевай**, беларускай актрысы, рэжысёра радыё.

**ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?**

***Чэрвень***

***Кінатэатр "Радзіма" Вялікая зала:***

9–11 – **"Ганна і кароль"**, 2 серыі, ЗША, прэм'ера. 16–40, 19–10, 21–30

13–18 – **"Тарзан і Джэйн"**, ЗША, прыгоды. 15–00, 19–10

**"Дзевятая брама"**, ЗША, трылер. 17–00, 21–00

15 – **"Армія выратавання"**, Расія, камедыя. Сустрэча з творчай групай. 19–00, 21–00

**Кожную пятніцу, суботу, нядзелю – дыскатэка**. Для школьнікаў – 17–00. Для моладзі – 20–00. Працуе бар, камп'ютэрныя гульні.

**Для дзяцей**

9 – "Паддашкавыя анёлы"
10 – "Маленькая чараўніца"
11 – "Садко"
12 – "Сцюарт Літл" (прэм'ера)
13 – "Жар–птушка"
14 – "Мэл"
15 – "Геркулес"
Пачатак у 10–00, 12–00
Субота, нядзеля – 13–00.

**КОНКУРСЫ**

## З другой спробы – у "тройцы"

МЯДЗЕЛ–СЛУЦК. У Слуцку прайшоў абласны конкурс "Лепшы па прафесіі" сярод загадчыкаў фельчарскіх акушэрскіх пунктаў (ФАП). Трэцяе месца на ім заняла фельчар Восаўскага ФАПа Ірына Грышкевіч.

Гэта ўжо другая яе спроба пазмагацца на абласным узроўні: у 1998 годзе яна была чацвертая. Лічыць, удала выступіць дапамаглі курсы павышэння кваліфікацыі, што прайшла сёлета ў Маладзечне.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

**СОЦЫУМ**

# 5 год таму ў горадзе адкрыўся сацыяльны прытулак

*МАЛАДЗЕЧНА. Там выхоўваюцца дзеці, якія па якіх-небудзь прычынах засталіся без бацькоўскай апекі. Часцей за ўсё, тыя бацькі вядуць амаральны лад жыцця.*

Метадыст дзіцячага садка №20 **Марына Шацёр** лічыць абсалютнай выпадковасцю тое, што ў садку адкрыўся гэты прытулак.

– Якраз у той час нас перападзілі ў падпарадкаванне міністэрству адукацыі, таму "за адным разам" дадалі гэты прытулак, – гаворыць яна.

За час існавання праз яго прайшло каля ста чалавек. Толькі за 1999–2000 навучальны год тут жыў 31 чалавек. Штогод альбом прытулку папаўняецца новымі прозвішчамі. Для большасці выхаванцаў гэтае месца з'яўляецца своеасаблівай перавалачнай базай паміж "родным" і дзіцячым дамамі. Цяпер там 8 дзетак.

Выхавальнік сацыяльнага прытулку **Алена Шыпілава** на пытанне пра іх удакладняе:

– Цяпер у нас 7 дзяцей – Валерку забрала на канікулы бабуля. Сёстры Іра і Таня – сіроты. Яны вельмі самастойныя. Малодшая, 5–класніца Таня, – выдатніца, усё сама робіць, падыдзе: "Зробіце даведку для домакіраўніцтва, каб за святло не плаціць?". Дзяўчынка рана прызвычаілася для дарослага жыцця.

Дзеці бываюць розныя. Мікіце – 8 з паловай год, а ў школе ён яшчэ не вучыўся. Рому падабралі на вуліцы, спачатку думалі, што гэта дзяўчынка. А калі пастрыглі ды памылі – аказаўся хлопчык.

Бацькі Віталіка і Каці пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, таксама дзеці без кантролю выхоўваліся. Гэта не значыць, што яны горшыя за іншых, мы да кожнага імкнемся знайсці падыход.

Апошнім у мінулы панядзелак з'явіўся Ілья.



Сацыяльны прытулак у поўным складзе.



Рому прывялі ў прытулак з вуліцы.

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

Выхаванцы дзеляцца з настаўніцамі ўсімі сакрэтамі – самы, бадай, лепшы паказчык работы выхавальнікаў.

– Мы прызвычаіліся ўжо, – гавораць выхавальнікі.

Толькі з грашыма цяжкавата, апошнія 2–3 месяцы зарплату затрымліваюць, і алоўкі, сшыткі даводзіцца купляць на грошы, якія выдзяляюцца на метадычную літаратуру. Адпускныя, напэўна, таксама будуць выплачвацца на працягу ўсяго лета.

За такую работу плацяць, як "звычайным" выхавальнікам. Але яны не скардзяцца, разумеюць усе фінансавыя цяжкасці аддзела адукацыі. Незадаволеныя толькі, што дзяцей у летнік забяруць не на поўны летні тэрмін, а толькі на першы месяц. 7 чалавек можна было б недзе і ўладкаваць, на прыродзе ім будзе лепей, чым дома.

А ведаеце, дзеткі усё ж хочуць дадому, да сваіх самых-самых лепшых мамы і таты.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

**СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА**

# Журналістаў – не пушчаць!

Старшыня Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко не адмяніў супрацьзаконнае адмаўленне ў акрэдытацыі журналістаў Астравецкім райвыканкомам.

24 лютага 2000 года галоўным рэдактарам "Рэгіянальнай газеты" у лісце, адрасаваным старшыні Гродзенскага аблвыканкома Аляксандру Дубко, была абскарджана адмова ў акрэдытацыі пры Астравецкім райвыканкоме карэспандэнтаў "Рэгіянальнай газеты". Журналістам было адмоўлена ў акрэдытацыі старшынёй Астравецкага райвыканкома Адамам Кавальчам, пра што мы пісалі раней. Мы папрасілі адмяніць рашэнне Астравецкага райвыканкома, акрэдытаваць карэспандэнтаў "Рэгіянальнай газеты" у Астравецкім райвыканкоме і прыцягнуць старшыню Астравецкага райвыканкома да дысцыплінарнай адказнасці.

Кіраўнік "Рэгіянальнай газеты" атрымаў адказ з Гродна. Праўда, невядома, ці чытаў ліст з Маладзечна адрасат, бо, замест старшыні аблвыканкома, адказ падпісаны выконваючым абавязкі начальніка упраўлення грамадска–палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкома В. Лявонавым.

"Пісьмо, адрасаванае старшыні Гродзенскага аблвыканкома, разгледжана ўпраўленнем грамадска–палітычнай інфармацыі і друку.

Падзяляем Вашу заклапочанасць больш ведаць пра наш рэгіён, у прыватнасці, пра Астравеччыну. Аднак, згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб кіраванні і самакіраванні" і Законам "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", мясцовыя ўлады на месцы самастойна вырашаюць пытанні аб размяшчэнні і выданні СМІ. Тое ж датычыцца і акрэдытацыі журналістаў.

Не можам пагадзіцца з Вашай думкай наконт таго, што райвыканком павінен інфармаваць журналістаў аб тых сваіх рашэннях, якія толькі рыхтуюцца. Закон аб мясцовым кіраванні і самакіраванні пакідае гэту прэрагатыву органам улады.

Аблвыканком не можа абавязаць раённы выканаўчы камітэт даць згоду на супрацоўніцтва з Вашай газетай. Але мяркуем, што Вы яшчэ раз сустрэнецеся з кіраўніцтвам Астравецкага райвыканкома і знойдзеце агульную мову.

Жадаем плённага супрацоўніцтва і ўзаемаразумення."

Па-ранейшым, улады стараюцца як толькі мага пазбягаць кантактаў з недзяржаўнай прэсай. Замест таго, каб вырашыць абгрунтаванае на законе патрабаванне акрэдытаваць журналістаў, нам прапануецца палюбоўна знаходзіць агульную мову. Гэта добра, калі ёсць кантакт з уладамі. І мы будзем яшчэ гэты кантакт у Астраўцы шукаць. Шкада, што чыноўнікі з Гродна ведаюць законы не лепш, чым іх астравецкія калегі і ну ніяк не хочуць, каб людзі ведалі, што робіцца за дзвярыма іх кабінетаў.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты".*

**ПАРТЫІ**

# Кіраўніцтва Гродзенскай абласной і гарадской арганізацый АГП пратэстуе супраць выключэння В. Леванеўскага з партыі

*МІНСК. Рашэнне аб выключэнні старшыні АГП па Гродзенскай вобласці Валерыя Леванеўскага з партыі прыняў палітсавет АГП 3 чэрвеня.*

Гродзенскія калегі выключанага адзначаюць, у прыватнасці, што рашэнне палітсавета «незаконнае і яўна правакацыйнае», паколькі «у адпаведнасці з пунктам 3.5 Статута, пытанне аб выключэнні сябра партыі вырашаецца агульным сходам або саветам пярвічнай або раённай (гарадской) арганізацыі, а таксама Нацыянальным Камітэтам».

Што да сітуацыі, што ўзнікла апошнім часам вакол асобы Валерыя Леванеўскага, то, паводле іхніх словаў, «на працягу паўгода кіраўніцтва АГП спрабуе навязаць новага кіраўніка абласной партыйнай арганізацыі». «З дапамогай кіраўніцтва цэнтральнага офіса партыі ствараюцца паралельныя партыйныя структуры, мінуючы гарадскую арганізацыю, — гаворыцца ў дакуменце. — Гэтыя пярвічкі не прадстаўляюць спісы і пратаколы ўстаноўчых сходаў і, значыць, не могуць паўнацэнна ўдзельнічаць у мерапрыемствах, якія праводзяць Гродзенскія абласная і гарадская арганізацыі".

Яны звяртаюць увагу грамадскасці на той факт, што, парушаючы дзеючае заканадаўства і Статут партыі, якія не дапускаюць умяшання ў яе справы з боку грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, «старшыня каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш прама патрабуе вызваліць Валерыя Леванеўскага ад займаемай пасады, і кіраўніцтва партыі ідзе на гэта, парушаючы Статут.

У сувязі з вышэйсказаным, кіраўніцтва гродзенскіх абласной і гарадской арганізацый АГП запатрабавала адмяніць рашэнне палітсавета ад 3 чэрвеня ў частцы выключэння Леванеўскага Валерыя з партыі і спыніць незаконныя дзеянні і шантаж у адносінах да Гродзенскай абласной арганізацыі. «У адваротным выпадку мы пакідаем за сабой права на заняцце больш жорсткай пазіцыі па гэтым пытанні», — заяўляюць паплечнікі Валерыя Леванеўскага.

*Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.*

**ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ**

# – Якому гатунку піва вы аддаяце перавагу?



***Аляксей Увараў**, дырэктар калгаснага рынку:*

– Я піва не п'ю. Аддаю перавагу безалкагольным напіткам. З іх больш падабаецца "Кока–кола".

***Раіса Сасіновіч**, працуе ў дзіцячым садку №16:*

– П'ю, у асноўным, піва маладзечанскага піўзавода. Падабаецца "Монастырский шепоток". Яго вылучу хаця б таму, што гэты гатунак лепшы за "Жыгулёўскае".



***Уладзімір Клешч**, старшыня таварыства абароны спажыўцоў:*

– Для мяне свята, калі атрымліваецца купіць лідскае піва. Маладзечанскае піва не такое сакавітае, бывае, не вытрымліваецца патрэбная тэмпература (6–8 градусаў). Хаця яно больш якаснае, чым 10 год таму.



***Аляксандр Стасевіч і Міхаіл Пятроў**, УПТ, група 303.*

– Мы любім цёмныя гатункі піва. Больш за ўсё ўжываем "Чорны прынц" і "Аліварыю", хаця пакаштавалі ўсё, што ёсць у Маладзечне. Мы на справе падтрымліваем айчынных вытворцаў, піўзаводы ў Лідзе, Мінску і Маладзечне зарабляюць на нас добрыя грошы.

ФОТААПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ**

# Смаргоні патрэбныя рабочыя і канструктары

СМАРГОНЬ. На Смаргонскім агрэгатным заводзе каля 75 тысяч квадратных метраў плошчаў, якія не выкарыстоўваюцца. Але апошнім часам іх пакрысе прыцягваюць у асноўную вытворчасць.

Неўзабаве на новых плошчах пачнецца выпуск лесатралёвачнага трактара на базе МТЗ, што серыйна выпускаецца ў Мінску. Ёсць дакументацыя яшчэ на 5 мадэляў міні–тэхнікі. Вядзецца набор спецыялістаў для выпуску гэтай прадукцыі: патрабуецца да двухсот станочнікаў, зваршчыкаў, канструктараў. Дослядныя ўзоры гэтых машын будуць выраблены ўжо да канца года.

*Павел МАКЛЮК.*

СЛУЖБА "01"

# Ідзе пажар па рэгіёне

Дажджы, якія ішлі тыдзень таму, асабліва не паўплывалі на пажарную сітуацыю ў рэгіёне: гараць лясы, гараць і тарфянікі. Спадзяванне на пахмурнае надвор'е, што ўсталявалася апошнімі днямі.

МАЛАДЗЕЧНА. Тут пік лясных пажараў прыйшоўся на сярэдзіну мая. Агню тады не далі разгуляцца, таму ў раёне сітуацыя больш–менш спакойная.

За мінулы тыдзень вялікіх пажараў не зарэгістравана, толькі ў ноч з панядзелка на аўторак у Лебедзеўскім сельсавеце адбылося невялікае ўзгаранне тарфяніка, якое было аператыўна патушана.

Маладзечанскія пажарныя не застаюцца без работы – пастаянна на выездзе ў Слуцкім раёне працуе брыгада з 8 чалавек і пажарная машына.

ВІЛЕЙКА. З пачатку месяца ні дня не праходзіць без выездаў на тушэнне лесу, травы ці тарфянікаў. У асноўным, церпіць Даўгінаўскі сельсавет, дзе і разгортваюцца "баявыя дзеянні" на мясцовых тарфяніках.

АСТРАВЕЦ. За мінулыя выхадныя адбыўся пажар у Міхалішкінскім сельсавеце. Гарэў лес на плошчы ў 1,5 гектара. Усяго за пажаранебяспечны перыяд сіламі пажарнай аховы патушана 5 лясных пажараў (плошчай 10 гектараў) і 4 тарфянікі (0,75 га).

СМАРГОНЬ. За апошні месяц пажарныя выязджалі 5 разоў на тушэнне лесу. На мінулым тыдні было невялікае ўзгаранне лесу каля гарадской рысы.

Тарфянікі ў раёне не гарэлі.

МЯДЗЕЛ. З пачатку месяца зафіксавана 6 узгаранняў лясоў і тарфянікаў: 3 малыя і 3 больш значныя. Самая большая плошча (у 3 га) была каля вёскі Петрачкі, 2 га лесу гарэлі каля вёскі Яцкавічы.

ВАЛОЖЫН. За пажаранебяспечны перыяд адбылося 14 выпадкаў загарання лесу агульнай плошчай 1,36 га. Апошнім у мінулую нядзелю было невялікае (0,02 га) загаранне лесу ў Івянецкім лясніцтве (паблізу гарадскога пасёлка Івянец).

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*



*З вышыні птушынага палёту добра відаць, як сціскаецца плошча, занятая лесам. На жаль, людзі рэгулярна дапамагаюць у гэтым.*



*Саджанцы сасны на руках работніка лясной гаспадаркі. Калі яшчэ з іх вырастуць гонкія дрэвы?*

ФОТА IREX/PROMEDIA.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 1 чэрвеня | 8 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 575,00 руб. | 595,00 руб. |
| Марка Герм. | 273,62 руб. | 291,55 руб. |
| Літ | 143,78 руб. | 148,78 руб. |
| Рас. руб. | 20,37 руб. | 21,02 руб. |
| Злоты | 130,98 руб. | 137,33 руб. |
| ЕЎРА | 535,15 руб. | 570,22 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | 980 – 1000 руб. |

МАЛАДЗЕЧНА. **Цэны ў сераду на рынку**

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 31.05 | ЦАНА (руб.) 07.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4230 | 4290 |
| Сасіскі | 1 кг | 1270 | 1270 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | – |
| Рыс | 1 кг | 340 | 360 |
| Грэчка | 1 кг | 560 | 570 |
| Цукар | 1 кг | 280 | 310 |
| Алей | 1 л | 660 | 670 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 385 | 375 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 260 | 260 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | 210 |
| Лімоны | 1 кг | 960 | 880 |
| Апельсіны | 1 кг | 560 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | 250 |
| Клубніцы | 1 кг | – | 1500 |
| Морква | 1 кг | 350 | 360 |
| Капуста | 1 кг | 220 | 360 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 700 | 700 |
| Масла | 1 кг | 1500 | 1500 |
| Тварог | 1 кг | 450 | 500 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 220 |
| Бульба | вядро | 500 | 550 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 480 |
| Пятрушка | 1 пучок | – | 40 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 100 | 80 |
| Кроп | 1 пучок | 40 | 40 |
| Салата | 1 пучок | 50 | 40 |

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## Паказчыкі беспрацоўя вярнуліся да пачатку года

Прапануем дыяграму колькасці беспрацоўных у рэгіёне за мінулы месяц

| | Колькасць беспрацоўных на 1 чэрвеня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1236 (-107) чалавек | 2,1% |
| Маладзечанскі раён | 205 (-11) чалавек | 0,9% |
| Астравецкі раён | 377 (-8) чалавек | 2,4% |
| Ашмянскі раён | 142 (+2) чалавек | 0,8% |
| Валожынскі раён | 188 (-8) чалавек | 1,0% |
| Вілейскі раён | 491 (+15) чалавек | 1,6% |
| Мядзельскі раён | 245 (-13) чалавек | 1,3% |
| Смаргонскі раён | 1381 (+20) чалавек | 4,1% |
| Усяго па рэгіёне | 4265 (-110) чалавек | |

Рэкордны паказчык па колькасці збаўлення ад беспрацоўя паказаў Маладзечанскі гарадскі цэнтр занятасці.

Мінуламесячныя лаўрэаты – Вілейскі і Ашмянскі раёны – цяпер "адгулялі ў плюс". Дадалося людзей, якія шукаюць работу, і ў Смаргонскім раёне. У цэлым, колькасць беспрацоўных у рэгіёне вярнулася да паказчыкаў студзеня (было 4279 чалавек).

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

ТАРЫФЫ

## Удвая ўзраслі тарыфы на электраэнергію для насельніцтва

МІНСК. Пастановай Міністэрства эканомікі ўдвая павялічаныя тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.

Цяпер насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з газавымі плітамі, будзе плаціць 7,2 рубля за кілават, насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з электраплітамі, а таксама жыхары сельскай мясцовасці — 5,2 рубля.

Гэта ўжо другое двухразовае павышэнне тарыфаў на электраэнергію для бытавых спажыўцоў за апошнія паўтара месяца. З пачатку года тарыфы ўзраслі ў 5,1 раза, тады як спажывецкія цэны ў цэлым — у 1,5 раза.

Тым не меней, новыя тарыфы будуць пакрываць сабекошт электраэнергіі менш, чым напалову.

*Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.*

## На 30% павысілася з 5 чэрвеня аплата прыватызаваных кватэр

Пастановай Міністэрства эканомікі зноў істотна павышаная стаўка кватрплаты (тэхабслугоўвання – для прыватызаваных кватэр). Плата за карыстанне адным квадратным метрам агульнай плошчы вырасла на 30% – з 3,74 да 4,86 дэнамінаванага рубля. Акрамя таго, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому дазволена павысіць на 30% тарыфы на гарачае водазабеспячэнне і ацяпленне.

Папярэдняе павышэнне стаўкі квартплаты – на 11,6% – адбылося ў канцы красавіка, а з пачатку года яна вырасла ўжо ў 2,2 раза. Тарыфы на камунальныя паслугі павялічыліся са студзеня ў 1,5–2,1 раза, а спажывецкія цэны ў цэлым – у 1,5 раза. Апераджальны рост тарыфаў звязаны з палітыкай скарачэння перакрыжаванага субсідзіравання камунальных паслуг, якія прадастаўляюцца насельніцтву за кошт прамысловых прадпрыемстваў.

*Па паведамленні "Хартыі'97".*

ПРАДУКТЫ

## Плаўленыя сыркі маюць напаўняльнікі на выбар

ВІЛЕЙКА. У маі мясцовы малочны завод пачаў выпускаць плаўленыя сыркі з рознымі напаўняльнікамі. Усяго завод выпускае 29 найменняў прадукцыі. Акрамя сацыяльна важных прадуктаў – малако, кефір, тварог, смятана – выпускаецца 6 відаў масла, жэле, ёгурты, крэмы.

Як адзначылі ў Мінску на пасяджэнні калегіі малочнай прадукцыі, ў рэспубліцы вытрымліваюць такі асартымент толькі Брэсцкі холадакамбінат і Вілейскі малочны завод. Прадукцыя апошняга мае попыт па ўсім рэгіёне, прыкладам, яе можна знайсці ў маладзечанскіх магазінах.

*Святлана ТАПАЛЬКОВА.*

АДПАЧЫНАК

## Гасцініца з новай шыльдай

У гасцініцы курортнага пасёлка Нарач зроблены рамонт: абнавілі фасад і зрабілі добрую шыльду, каб здалёк было відаць, што гэта гасцініца. Робяць у нумарах і душавыя.

Але жадаючыя адпачыць на Нарачы месцаў ужо не знойдуць: на лета амаль усё распрададзена. Крыху месцаў засталося толькі ў мінскіх турфірмах.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МЯЖА

## Стала больш жорсткай сістэма перавозак прадуктаў цераз КПП на мяжы з Літвой

АСТРАВЕЦ. Тым, хто яшчэ не ведае нормы перавозу прадуктаў або свядома плануе абхітрыць мытнікаў, прапаноўваюць пазбаўляцца лішкаў проста на КПП. У выніку – хто імкнецца схаваць кавалак кілбасы або вясковай паляндвічкі, што везлі ад бацькоў, за пазуху, хто запіхвае ў рот, а іншы і выкідвае прадукты ў бак для смецця ці проста за агароджу.

У Казлоўцы дзеці, бацькі якіх п'юць, нават добра іншым разам упалююць для сябе прадуктаў. Праўда, апошнім часам тыя, хто праязджае праз КПП, сталі больш паслухмяныя: усё менш і менш іх прымушаюць выкідваць лішкі.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Знайшлі фальшывую 100–доларавую купюру

АШМЯНЫ. На рэчавым рынку па вуліцы Савецкай затрымалі мясцовую жыхарку, якая спрабавала рэалізаваць фальшывую 100–доларавую купюру.

У Ашмянскай пракуратуры сцвярджаюць, што купюра зробленая спосабам плоскага афсетнага друку з фотамеханічных друкарскіх формаў. Даволі цяжка было вызначыць, што яна фальшывая.

Купюру накіравалі на экспертызу, узбуджаная крымінальная справа, вядзецца следства.

Сёлета гэта першая няўдалая спроба збыць фальшыўкі. Летась такія выпадкі здараліся.

*Аддзел інфармацыі.*

## Устанаўліваецца асоба



Маладзечанскім АУС на транспарце ўстанаўліваецца асоба мужчыны, які 30 мая каля 5–00 быў смяротна траўміраваны грузавым цягніком на прыпыначным пункце Баяры Маладзечанскага раёна.

Яго прыметы: на выгляд 40–45 год, сярэдняга целаскладу, рост 165–170 сантыметраў, твар трохвугольны, валасы цёмныя, сярэдняй даўжыні, лоб па вышыні сярэдні, бровы рэдкія, дугападобныя, вочы шэрыя, нос сярэдні, спінка носа прамая, губы сярэднія, вушы прыцінутыя да чэрапа, мочка свабодная.

Быў апрануты: майка белая, кашуля бэжавая, штаны сінія, трусы зялёныя, шкарпэткі сінія ў карычневую пал[illegible]у, галошы карычневага колеру.

Асаблівых прымет няма.

Грамадзян, якія што–небудзь вядома пра асобу загінуўшага, просім паведаміць па тэл. у Маладзечне 42416, 42357 або 02.

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Ранішняя зараніца чырвоная – будзе дождж.

Уначы выпала густая раса – да яснага надвор'я.

Калі наготкі раніцай разгорнуць вяночкі, то чакаецца яснае надвор'е, калі пасля апоўдня – дождж, навальніца.

11 чэрвеня. Іван, Хвядосся. Хвядосся–каласяніца – жыта каласіцца.

13 чэрвеня. Ерма, Ярмія. Прыйшоў Ерамей – больш не сей.



Непрыемнасць тыдня.



## Паварушы мазгамі

Вымушаныя расчараваць шматлікіх прыхільнікаў рубрыкі: яе вядучы Якім Пярэчка выехаў у тэрміновую камандзіроўку.

Парадуем: у наступным нумары вас чакае чарговае заданне ад яго.

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Бульба, запечаная з сырам і яйкамі

***10 бульбін, 2 яйкі, 2 вял. лыжкі падзертага сыру, 1 шклянка смятаны, 2 вял. лыжкі масла, соль.***

Адвараную ў лупінах бульбу ababраць, парэзаць кружочкамі, пасаліць. Глыбокую патэльню змазаць маслам, улажыць слаямі бульбу, падзерты сыр, крутыя яйкі, парэзаныя кружочкамі. Кожны слой спырснуць маслам. Зверху паліць смятанай, пасыпаць падзертым сырам і запячы ў духоўцы. Падаць на стол з маслам.

## Калабкі з разынкамі

***250 г тварагу, 150 г мукі пшанічнай, 1 вял. лыжка смятаны, 2 яйкі, 150 г разынак, 100 г тлушчу кулінарнага, 1 вял. лыжка цукровай пудры.***

Тварог працерці, дадаць муку (частку мукі пакінуць для фармоўкі калабкоў), яйкі, смятану і старанна перамяшаць. Тварог трэба выкарыстоўваць з найменшым працэнтам вільготнасці.

Атрыманую масу раздзеляць на кружкі, на сярэдзіну кожнага ўлажыць папярэдне замочаныя і абсушаныя разынкі, надаць форму шарыка і смажыць у вялікай колькасці тлушчу да ўтварэння румянай скарыначкі. Давесці да гатоўнасці ў духоўцы.

Пры падачы пасыпаць цукровай пудрай.

### БЛІЦ–КОНКУРС "РГ"

## Зарабіце білеты ў кіно-2

Схадзіць з дапамогай чатырох каўбояў у кіно (гл. мінулы нумар "РГ", 4-я стар.) не ўдалося нікому. Самы блізкі адказ "уклаўся" толькі ў 65 хвілін. Хаця задачка была простая. Мусіць, адказвальнікі пачалі рашаць яе з дапамогай матэматыкі (патрэбная ж, на мой погляд, была логіка, а арыфметыка прысутнічала тут дзеля кантролю правільнасці). Вось адказ.

Каўбоі, усё ж, паспелі перайсці праз бездань за 1 гадзіну:

– ідуць 10- і 5-хвілінны. 10-хвілінны вяртаецца са свечкай. Такім чынам: 20 хвілін.

– пайшлі марудныя (25 і 20 хвілін) разам. 5-хвілінны вяртаецца. Такім чынам: 30 хвілін.

– цяпер 10- і 5-хвілінны ідуць разам ізноў. Такім чынам: 10 хвілін.

Вось і арыфметыка приспела: 20+30+10=60.

Два пытанні

Даем яшчэ адзін шанец схадзіць у кіно. Прапануем эрудытам адказаць на два пытанні.

1. У адным амерыканскім гарадку, які падарыў свету знакамітага пісьменніка, ёсць помнік. Адметная рыса яго (ці дэталь) – дохлы кот. У чый гонар узнік такі дзіўны манумент?

2. Герой паэмы Гамера Адысей, як вядома, шмат вандраваў. Аднаго разу, каб выратаваць жыццё, ён утаіў сваё сапраўднае імя і назваўся іншым. Гэтае прыдуманае імя праз шмат стагоддзяў набыў яшчэ адзін літаратурны персанаж, які таксама любіў вандраваць. І якое ж імя выратавала жыццё Адысею і належала іншаму кніжнаму персанажу?

Умовы тыя ж. Першыя два пераможцы 15 чэрвеня ідуць у кінатэатр "Радзіма", дзе ў 19.00 і 21.00 пройдзе творчая сустрэча са стваральнікамі новай камедыі "Армія выратавання". Па–ранейшым, кожны з іх можа запрасіць з сабою сябра ці сяброўку. Вось толькі адказы прымаем да 17.00 панядзелка (можна па тэлефоне 69667).

*Лявон ІНЕТНЫ.*

### КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №22*

**Па гарызанталях:** 3. Густ. 5. Бобр. 8. Дзёран. 9. Абутак. 11. Алт. 14. Мойва. 17. Посуд. 18. Ураджай. 19. Арка. 21. Паша. 22. Капа. 23. Сена. 24. Азар. 27. Барк. 30. Пілотка. 31. Вораг. 32. Комін. 34. Гар. 37. Пашана. 38. Асілак. 39. Пуга. 40. Акім.

**Па вертыкалях:** 1. Футра. 2. Абрус. 4. Тона. 5. Брат. 6. Дзівак. 7. Карова. 10. Мова. 12. Ліда. 13. Ружа. 15. Крупнік. 16. Талерка. 20. Акр. 21. Паб. 24. Азот. 25. Абабак. 26. Мора. 28. Аловак. 29. Кліч. 33. Пацук. 34. Газа. 35. Рада. 36. Кілім.

### ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Лепш бы вы канверты купілі

Пра абмен грошай напачатку 90–х многія з нас помняць вельмі добра. У Расіі пасля гэтага ўвялі свае грошы, якія таксама час ад часу "мянялі". Гісторыю расказаў стрыечны брат, які ў тыя гады разам з сябрамі перабіваўся дробным гандлем (кіёскі, ларкі) у адным з ажыўленых раёнаў Пецярбурга.

– Аптовага рынку прадуктаў тады яшчэ не існавала, таму куплялі тавар, дзе давядзецца, – успамінае ён. – У асноўным, шукалі па аб'явах, бо ў крамах гаспадарыла разбурэнне. Палавіна прадуктаў правалася па талонах, а за другой ціскаліся ў страшэнных чэргах.

Жылі мы з напарнікам Віталем у адпакаёўцы. Час ад часу з розных куткоў былога Саюза да нас зляталіся былыя аднакашнікі, якія таксама спрабавалі зводзіць канцы з канцамі гандлем рознай драбязой. У той раз гасціў у нас Дзіма, мурманскі афіцэр–спекулянт (зарплату ў часці не плацілі, таму ён скалаціў групу аднадумцаў, і тыя па чарзе прыязджалі ў Піцер з вялізнымі чамаданамі). Дні тры яны звычайна пілі разам з намі, затым атаварваліся на "таўкучцы" таннай жвачкай ды цыгарэтамі і адбывалі прадаваць усё ў Мурманск.

У той раз Дзіма моцна прастыў. Ён пакінуў у нас усе свае грошы (справядліва меркаваў, што яны будуць у захаванасці), а сам падаўся да знаёмай. Усё ж больш прыемна хварэць, калі вакол цябе скача якая–ніякая, але жанчына, чым ігнаруюць два цынічныя мужыкі. Наступнай раніцой абвясцілі пра чарговую замену купюр (з чырвоных на зялёныя ці наадварот?). Здаецца, мянялі дзесяткі. Нейкі кіраўнік з экрана тэлевізара суцяшаў, што нічога страшнага не адбудзецца і працаўнікі нічога не згубяць. Магчыма, ён меў на ўвазе сябе і сваіх калег.

Першым нам патэлефанаваў Дзіма. Ён меў усе падставы непакоіцца. Сумка, што ён пакінуў, уражвала і складала ўвесь Дзімін капітал, зароблены непасільнай працай за два гады бесперапынных паездак з Піцера ў Мурманск і назад. Ён суцешыўся нашымі абяцанкамі (маўляў, таксама будзем шукаць нешта) і папрасіў абмяняць яго непапулярныя купюры на тое, што пазней можна будзе прадаць. На наш розум.

Пакуль мы пачысцілі пёры і дабраліся да бліжэйшага валютніка, там, натуральна, стаяў натоўп. Народ не надта давяраў тэлеабяцанкам, таму пастроіўся за сваім шчасцем. Яшчэ на падыходзе да нас пачалі вязацца валютчыкі і звычайныя грамадзяне на прадмет выкупіць у нас долары. Справядліва памеркаваўшы, што падобнае робіцца па ўсім горадзе, мы праравалiся да акенца касы.

Долары не прадавалі. Іх толькі куплялі. Затое ўся іншая валюта была ў поўным асартыменце. Для мяне і цяпер загадка, чаму менавіта да долара быў такі давер, а не да гульдэна ці ены. Тым болей, у поўны рост прадаваліся нямецкія маркі. Мы не сталі вагацца і прыбарахліліся менавіта дойчмаркамі.

З пачуццём выкананага абавязку мы вываліліся з натоўпу і пайшлі піць піва. Пасля першага літра ўспомнілі пра Дзіму. Вырашылі не мучыць мужыка і парадаваць удалай пакупкай. Аўтамат патрапіўся добры, і Дзімін голас разносіўся па ўсёй тэлефоннай будцы. Радасны Віталь давёў яму адразу:

– З цябе літр! Усё ў парадку – мы маркі купілі.

У адказ у трубцы было маўчанне. Затым мы пачулі нервовы голас Дзімы:

– Я–якія м–ма–маркі?

Віталік адчуў ягонае неразуменне. Баючыся спалохаць удачу, ён з прыдыханнем патлумачыў:

– Паштовыя, Дзіма, маркі. Два клясеры (гэта альбомы такія для марак).

Пасля паўзы дадаў для канкрэтнасці:

– Пра жывёл...

Яшчэ праз паўзу ў трубцы завыла. Ад раніцы яшчэ асіплы голас Дзімы цяпер іскрыўся і пераліваўся. Мова была плаўная, словы з'яўляліся амаль без затрымак і пераходзілі з вісклівых нотак на басы. Калі тэхнічных магчымасцяў у трубцы не хапала, у ёй пачынала рохкаць. Мы ўсхвалявана слухалі, баючыся прагнаць Музу. Голас вырываўся з трубы, ён прымушаў мембрану дрыжэць і вішчэць. Ён расказваў жахлівыя рэчы пра нашых мам. Праклінаў усю гуматэхнічную прамысловасць і бацькоў, якія не чытаюць інструкцыі да прэзерватываў. Ён клікаў за сабою ў такую далечыню, пра якую мы нават не здагадваліся.

Ад ледзь стрымліваемага ржання мы рохкалі ва ўнісон трубцы і паціху спаўзалі на не першай свежасці падлогу тэлефоннай будкі. Па шчаках цяклі слёзы. Некаторы час мы з Дзімам яшчэ рохкалі на розных канцах тэлефоннага провада. Затым надышоў аргазм, і Дзіма заціх. Хвароба, мусіць, узяла сваё. І ўжо ціхім голасам, у якім скразіла сусветная жалоба, ён самотна сказаў:

– Лепш бы вы, прыдуркі, канвертаў купілі – я б іх матросам прадаў.

*Запісаў Сямён РАБІНОВІЧ.*




*Пераможца конкурсу разгадвальнікаў крыжаванак Анатоль Рогач з Вілейкі з прызам – скрынкай піва "Спадарскае" маладзечанскага піўзавода.*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

### ПРОСТА АНЕКДОТ

Негр размаўляе з белым:

– Я не разумею, патлумач мне, калі ласка. Калі я нарадзіўся, я быў чорны, вырас таксама чорны; калі я загараю, я чорны; калі мне горача, я чорны, і калі мне халодна – таксама чорны; калі я хварэю, я чорны; і калі памру – таксама чорны буду. А вы, белыя... Вось ты, калі нарадзіўся, ты быў ружовы; калі ты загараеш – ты карычневы; калі табе горача – ты чырвоны, а калі халодна – сіні; калі ты хварэеш – ты зялёны, а калі памрэш, то будзеш шэры... І пасля гэтага вы маеце нахабства называць нас каляровымі?

### ГАРАСКОП 12 – 18 ЧЭРВЕНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Не задумвайцеся пра будучае, жывіце цяперашнім. Кароткія паездкі, напэўна, не задаволяць вашу цягу да перасоўванняў, таму лепш паберажыце запал для далёкага падарожжа. Магчымая вельмі выгадная прапанова правядзення адпачынку.



**Цялец (21.04–21.05)**

З 15 чэрвеня надыход перыяду росквіту і дастатку. Будзе скончаны нейкі важны перыяд у вашым жыцці, ад якога вы спадзяваліся атрымаць значны матэрыяльны прыбытак і новыя магчымасці. Атрымаеце.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Да 16 чэрвеня захоўваецца небяспека дрэннага ўплыву, што можа прынесці значную шкоду і поўнасцю разбурыць некаторыя мэты. 17–18 чэрвеня праявяцца стратэгічныя таленты, і вы можаце з гонарам выйсці з паядынку. Магчымы стрэс!



**Рак (22.06–23.07)**

Мноства кантактаў, як эмацыянальна-сексуальных, так і дзелавых. І калі першыя могуць вельмі ўскладніць ваша асабістае жыццё, то другія выведуць вас з перыяду крызісу. Тым не менш, у гэты перыяд лепш мець справу з прадстаўнікамі супрацьлеглага полу.



**Леў (24.07–23.08)**

Вашы эмоцыі звузяцца да светапогляду дамашняга ката (або кошкі), калі ўсё, што адбываецца за межамі канапы, стане нецікавым. Пасля бурнага папярэдняга перыяду неабходная передышка. Магчымае высвятленне адносінаў з людзьмі, якія вам нецікавыя.



**Дзева (24.08–23.09)**

13 чэрвеня вы будзеце надзвычай раздражняць навакольных, таму лепш правядзіце гэты дзень у адзіноце, плануючы работу на бліжэйшы час. Жанчыны могуць атрымаць падарунак, мужчыны – парачку неаплачаных рахункаў.



**Шалі (24.09–23.10)**

14-16 чэрвеня вам давядзецца выступіць міратворцам. Гэта вельмі добры перыяд для юрыстаў, таму што справы будуць адбывацца самі сабой і па вышэйшай меры справядлівасці. А вось у бізнесменаў і фінансістаў магчымая растрата.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Пасля 16 чэрвеня ў вашых справах будзе перапынак, Вельмі будзе садзейнічаць гэтаму ваша красамоўства, уменне лавіраваць і інтрыгаваць. Магчыма, адыграюць станоўчую ролю павышаны настрой і добрае самаадчуванне.



**Стралец (23.11–21.12)**

Лепшы дзень для самарэалізацыі, дасягнення поспеху і завязвання кантактаў – 15 чэрвеня. У астатні час вам можа здацца, што вы выпалі з жыцця: шмат работы, мала зносінаў. Асцерагайцеся краж, не адпраўляйцеся ў дарогу.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вам удасца выдатна ўладкавацца і скарыстаць добрыя адносіны навакольных на карысць сабе. Час таксама спрыяльны для спартсменаў, людзей, які вядуць актыўны лад жыцця. Вы можаце лёгка дасягнуць выдатных вынікаў.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Перыяд спрыяльны для пачатку адпачынку або часовай передышкі ў рабоце. Вы прыкметна абмяжуеце кантакты, умудрыцеся пасварыцца з блізкім сябрам і канчаткова расчаруецеся ва ўсім. Але гэта пройдзе хутка, як летняя навальніца.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Жанчыны гэтага знака будуць адчуваць сум і дэпрэсію, захочацца перамен, свята або проста ўвагі. Але ўсё гэта, як ім будзе здавацца, бывае толькі ў іншых... Мужчыны могуць закахацца і нарабіць глупстваў.

# Прэс-рэліз Сакратарыята Усебеларускага З'езда

*1 чэрвеня 2000 года Сустаршыні Аргкамітэта Усебеларускага З'езда прынялі рашэнне вынесці на ўсенароднае абмеркаванне праект Акта Незалежнасці Беларусі і звярнуцца да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай апублікаваць гэты дакумент. Дзеля яго ўдасканалення зацікаўленыя асобы і арганізацыі маюць магчымасць даслаць на адрас Сакратарыята свае прапановы наконт змен і дапаўненняў. Усе яны будуць разгледжаныя і ўлічаныя пры канчатковай падрыхтоўцы Акта Незалежнасці Беларусі.*

*Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага З'езда: (017) 2236529*

*Адрас для карэспандэнцыі: 220065, Мінск, а/с 297.*

## Праект

АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

– усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;

– напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

ЗАЯЎЛЯЕМ:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці павінны пераследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваныя ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз рашэнні вышэйшых дзяржаўных асоб і органаў і нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўлад, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў большасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы – за добрыя, раўнапраўныя і узаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

СВЕДЧЫМ

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

АБВЯШЧАЕМ

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

ПРЫЗНАЕМ

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

ЗАКЛІКАЕМ

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасці.

Жыве Беларусь!

Прынята Усебеларускім З'ездам " " ———— 2000 года ў Мінску.

*НАША ПАМЯЦЬ*

# Пра адну з трагедый Вілейкі

***У гэтыя дні Вілейка выглядае ўтульным квітнеючым гарадком Заходняй Беларусі. Галоўная плошча ачысцілася ад базарных палатак, падняліся банкі, дабудаваліся жылыя дамы. Нават не верыцца, што 55 год таму горад поўнасцю згарэў ад пажарышчаў вайны. Колькі трагедый пранеслася над ім! Пра адну з іх расказваюць старажылы горада.***

Старастай Вілейскага павета быў Вітольд Бурачэўскі, справядлівы, шчыры чалавек, выхадзец са старадаўняга шляхецкага роду, сядзіба якога знаходзілася ў Зімодрах. За год да пачатку другой сусветнай вайны быў пераведзены ў Маладзечанскі павет. У В. Бурачэўскага была невялікая сям'я: 2 маалетнія сыны, адзін з якіх ад прыроды быў глуханямы, жонка працавала фармацэўтам у аптэцы. У час фашысцкай акупацыі Бурачэўскія дапамагалі партызанам: перадавалі лекі, бінты, шпрыцы, харчаванне. Нягледзячы на тое, што гэта быў страшны 1942 год, верасень, карнікі спальвалі вёскі, гарэлі людзі яўрэйскай нацыянальнасці ў Куранцы, сагнаныя ў хлявы недалёка ад сядзібы Бурачэўскіх. Многія жыхары Куранца, Вілейкі знаходзіліся ў засценках гестапа, не вытрымлівалі катаванняў, выдавалі сваіх землякоў. І ў адну з восеньскіх жудасных начэй гэтага года трое афіцэраў–эсэсаўцаў пад'ехалі на легкавой машыне да хутара, дзе жылі старыя бацькі Вітольда Іосіфавіча, выкінулі дзяцей і павезлі ў невядомым напрамку Бурачэўскіх. Іх расстралялі, але ніхто не ведае, дзе магіла гэтых мужных людзей. Дзеці выжылі. Алег Бурачэўскі атрымаў вышэйшую інжынерную адукацыю, цяпер на пенсіі, жыве ў Мінску. А Альберт так усё жыццё і пражыў з той страшнай ночы на хутары, ні з кім не зносіцца, і ніхто не ведае, што ў яго на душы.

**Кірыл МАКСІМАЎ.**

*У БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ*

# Прэс-рэліз

## з прычыны расследавання фактаў масавага затрымання журналістаў і прымянення да іх грубай фізічнай сілы работнікамі органаў правапарадку 25 сакавіка 2000 года.

***28 сакавіка 2000 года грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звярнулася з пісьмом да міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Сівакова, начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў (ГУУС) Мінгарвыканкома Барыса Тарлецкага, старшыні Гаскамітэта па друку Міхаіла Падгайнага, старшыні Мінгарсавета Уладзіміра Папкоўскага і Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Алега Бажэлкі па факце масавага затрымання журналістаў у Дзень Волі 25 сакавіка 2000 года. Тады без усялякіх на тое падстаў было затрымана 35 супрацоўнікаў беларускіх і замежных СМІ. Іх прымусова даставілі на закрытую тэрыторыю вайсковай часці, памясцілі ў спартыўны ангар і ўтрымлівалі больш за дзве гадзіны без усякіх тлумачэнняў. У час затрымання некаторым журналістам мэтанакіравана пашкодзілі апаратуру.***

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў", абапіраючыся на заявы і паказанні пацярпелых, запатрабавала ад кіраўніцтва органаў унутраных спраў прынесці публічныя прабачэнні і прыцягнуць супрацоўнікаў МУС, вінаватых у парушэнні правоў журналістаў, да ўстаноўленай законам адказнасці. Генеральнаму пракурору было прапанавана ўзбудзіць крымінальную справу па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці (арт. 96 КК); наўмыснае лёгкае цялеснае пашкоджанне або пабоі (арт. 110 КК); перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў (арт. 167 КК).

Як адрэагавалі органы ахоны правапарадку на абуральнае і беспрэцэдэнтнае парушэнне правоў журналістаў?

Кіраўнікі МУС і ГУУС Мінгарвыканкома правялі сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і прынеслі ім прабачэнні. МУС паведаміла грамадскаму аб'яднанню "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што па выніках службовага расследавання "гэтыя афіцэры пераведзеныя на іншую работу, не звязаную з забеспячэннем ахоны грамадскага парадку і непасрэднага рукаводства асабовым саставам". Аднак, на паўторны зварот з просьбай назваць прозвішчы афіцэраў, якія былі пераведзеныя "на іншую работу", адказу не было.

Кіраўнік Дзяржкамітэта па друку М. Падгайны, гаворачы пра падзеі 25 сакавіка, прызнаў, што службовыя асобы ў адносінах да прадстаўнікоў прэсы дзейнічалі неправамерна.

Мінгарсавет з прычыны звароту Беларускай асацыяцыі журналістаў не даў ніякага адказу, хаця павінен быў адказаць. Справа ў тым, што 17 чэрвеня 1998 года па факце грубага парушэння правоў журналістаў супрацоўнікамі сталічнай міліцыі Мінгарсавет прыняў рашэнне №175, якім ГУУС Мінгарвыканкома прапанавалася забяспечыць "умовы для бесперашкоднага выканання журналістамі іх прафесійных абавязкаў у час грамадска–палітычных мерапрыемстваў".

Пракуратура па дадзеным звароце журналістаў больш за месяц захоўвала маўчанне, хаця па дзеючым заканадаўстве рашэнне аб узбуджэнні справы павінна быць прынята на працягу 10 дзён з моманту падачы заявы (звароту). Толькі 3 мая 2000 года пракуратура г. Мінска паведаміла, што "у час правядзення несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў у горадзе Мінску 25 сакавіка 2000 года дзеянні работнікаў міліцыі яўна не выходзілі за межы ўскладзеных на іх правоў і паўнамоцтваў, рэгламентаваных Законам Рэспублікі Беларусь "Аб міліцыі". Ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць работнікаў міліцыі было адмоўлена за адсутнасцю ў іх дзеяннях саставу злачынства.

У той жа час пракурор горада М. Купрыянаў указаў, што работнікі міліцыі пры затрыманні грамадзян і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі дапусцілі шэраг парушэнняў заканадаўства і на гэты конт пракуратурай будзе вынесена прадстаўленне міністру ўнутраных спраў.

Наколькі нам вядома, да цяперашняга часу такое прадстаўленне не вынесена, таму што ранейшы міністр унутраных спраў Ю. Сівакоў пайшоў у адстаўку, а яго пераемнік пакуль не назначаны.

Апошняй па часе рэакцыяй уладаў на факт незаконнага затрымання журналістаў стала прэс–канферэнцыя Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь А. Бажэлкі 25 мая г. г. На яго думку, журналісты самі вінаватыя ў тым, што прыйшлі на плошчу Якуба Коласа, дзе збіраліся грамадзяне для арганізаванага праходжання на месца акцыі, быццам бы правакуючы тым самым работнікаў міліцыі на прымяненне прэвентыўных мер. Па сутнасці, Генеральны пракурор прыраўняў выкананне журналістамі сваіх прафесійных абавязкаў да парушэння правілаў правядзення мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый.

Аднак Генеральны пракурор пакінуў без увагі тое, што журналісты маюць права прысутнічаць на месцы правядзення грамадска–значных падзей і перадаваць адтуль інфармацыю (арт. 39 Закона аб друку). Замест стварэння для гэтага ўмоў і забеспячэння бяспекі журналістаў работнікі міліцыі прымянілі да іх грубую фізічную сілу.

А. Бажэлка, як вышэйшая службовая асоба ў сферы кантролю за захаваннем законнасці, не заўважыў, што супрацоўнікі міліцыі і асобы ў цывільным, якія праводзілі затрыманні, адмаўляліся прадставіцца і растлумачыць прычыны рэпрэсій, нікому з журналістаў нават не дазволілі патэлефанаваць у рэдакцыю, родным і блізкім. Ён не даў прававой ацэнкі і таму, што журналісты незаконна ўтрымліваліся на тэрыторыі вайсковай часці больш за дзве гадзіны.

Беларуская асацыяцыя журналістаў абураная бяздзейнасцю ўладаў і чарговымі адпіскамі, якія ні да чаго не абавязваюць. У чарговы раз груба парушаныя правы не толькі супрацоўнікаў СМІ, але і канстытуцыйнае права многіх тысяч грамадзян Беларусі на атрыманне поўнай, дакладнай і аб'ектыўнай інфармацыі.

Беларуская асацыяцыя журналістаў не здымае сваіх патрабаванняў і настойвае на правядзенні дакладнага, усебаковага расследавання з указаннем прозвішчаў і пасад работнікаў міліцыі, ваеннаслужачых унутраных войскаў і "невядомых асоб" у цывільным, якія здзейснілі процііпраўныя дзеянні ў адносінах журналістаў 25 сакавіка 2000 года.

***Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў"***
***2 чэрвеня 2000 года, г. Мінск.***

*ГАРАДКІ*

# Другое месца маладзечанцаў на Кубку Еўропы

***ЕЎПАТОРЫЯ-МАЛАДЗЕЧНА. У напружанай барацьбе, прадэманстраваўшы вялізную прагу да перамогі, на вачах групы падтрымкі з трыццаці чалавек каманда маладзечанскіх гарадошнікаў заняла другое месца ў кубкавым кантынентальным турніры. Гэта найлепшы поспех для нашых, бо ў кубкавых спаборніцтвах раней мелі толькі трэцяе месца ажно ў 1994-м годзе.***

Напачатку праводзіўся асабісты турнір. Тут нашы землякі па-ранейшым выступілі не надта ўдала. Пасля першага дня толькі трое ўвайшлі ў лепшую дваццатку. На другі дзень спартсмены разбіліся па парах. Далей маглі выходзіць пераможцы пар і двое прайграўшых з найлепшымі вынікамі. Тут мы страцілі **Аляксандра Карповіча**. На трэці дзень у шасці парах вызначаліся чвэрцьфіналісты па той жа формуле (пераможцы + 2). На жаль, тут завяршыў барацьбу **Генадзь Сушко**, а вось **Аляксандр Яршэвіч** быў мацнейшы за украінца **Мікалая Пагарэлава**.

Далей у 1/4 прыйшлося супраць стаяць самому **Васілю Духаніну**. Па партыях зафіксаваная нічыя 1,5:1,5, а ў пенальці да першай памылкі на дзеяннях Яршэвіча адбіўся той факт, што ён да сёлетняга сакавіка амаль тры гады практычна не браў біту ў рукі.

У камандным турніры 11 калектываў былі разбітыя на тры групы, дзе трэба было не стаць апошнімі. Беларусь прадстаўлялі тры дружыны. Маладзечна-2 і Бярозаўка былі ў адной групе, прайгралі прадстаўнікам Чарапаўца (Расія) і Нікапаля (Украіна). У асабістай спрэчцы маладзечанцы (**Андрэй Купрэвіч**, Віталь Бягун, **Саша Кулак**, **Юрый Найлавец**) былі мацнейшыя – 3:2 і выйшлі ў чвэрцьфінал з найгоршым рэйтынгам. Маладзечна-1 (Яршэвіч, Карповіч, Сушко, **Аляксандр Кулак**) перамаглі Санкт-Пецярбург 3,5:0.5 і Днепрапятроўскую вобласць 3:0, займеўшы найлепшы рэйтынг. Вось і сустрэліся паміж сабою ў 1/4. Лідэры перамаглі 3,5:1,5.

У паўфінале выйшлі на чарапавецкую "Поўначсталь", якая летась закрыла шлях да высокіх месцаў. Лік па партыях развіваўся на нашу карысць 1:0, 1:1, 2:1, 2:2, але на працягу апошняй прайгравалі дзве біты. Тут бліскуча праявіў сябе Карповіч, які выбіў з адной біты складаную фігуру і з двух – "пісьмо". У выніку – нічыя 2,5:2,5, а ў серыі пенальці не схібілі Карповіч і Сушко, тады як памыліўся хтосьці з сапернікаў.

З-за праблем з рэгламентам, якія спадарожнічаюць амаль усім турнірам гарадошнікаў, давялося пачынаць фінальны матч усяго праз 15 хвілін пасля паўфіналу, тады як сапернікі з "Манганіта" (Арджанікідзе, Днепрапятроўская вобласць) мелі больш за гадзіну адпачынку. Маладзечанцы прайгралі стартавую партыю, потым аднавілі лік і выйшлі наперад 2:1. На жаль, не хапіла сіл утрымаць перамогу. У выніку 2:3.

Бліскуча ў гэты дзень гуляў Яршэвіч. Сапернікі зноў пачалі яго, моцнага і тэхнічнага, проста пужацца. Ён значна ўзмацніў каманду. Хочацца верыць, што былыя праблемы са здароўем больш не ўзнікнуць. У належнай фізічнай форме і баявым настроі была і ўся каманда, вынікам чаго стаў яе поспех.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

